Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная ГАЗЕТА

№ 29(65) 19-26 ліпеня 1996 года Цана свабодная

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

## Падзея тыдня

Прэзідэнт Беларусі знаходзіўся з афіцыйным візітам у Францыі. У Парыжы адбылася яго сустрэча з Жакам Шыракам. Кіраўнікі дзвюх дзяржаў падпісалі палітычны дагавор аб узаемаразуменні і супрацоўніцтве. Прэзідэнт Францыі прыняў запрашэнне наведаць Мінск з візітам у адказ.

Падзеяй, якая расставіла кропкі над "і" ва ўнутраным жыцці Беларусі, стала сустрэча Лукашэнкі з галоўнымі рэдактарамі "вядучых" сродкаў масавай інфармацыі нашай рэспублікі.

"Мінулыя два гады ў жыцці чалавецтва– імгненне, а ў маім жыцці– цэлы перыяд",– гэты выраз прэзідэнта і вызначыў ў асноўным накірунак размовы. Высока ацаніўшы вынікі ініцыіраванага ім у маі 1995 года рэферэндуму, Лукашэнка, матывуючы тым, што ў плане заканадаўства ў нашай рэспубліцы крызіс, выказаў пажаданне змяніць Асноўны закон– Канстытуцыю цывілізавана, і, калі патрабуецца, то зноў звярнуцца да інтэнсіўнага сродку– вынасу на ўсенароднае абмеркаванне. З далейшых выказванняў дапускаецца яшчэ адно пытанне, якое можа быць вынесена на рэферэндум– аб сумесным фарміраванні прэзідэнтам і Вярхоўным Саветам рэспублікі складу Канстытуцыйнага Суда. Падтрымка народам прэзідэнта ў гэтых двух пытаннях дае магчымасць яму правесці ў жыццё канцэпцыю нашай дзяржавы, што распрацоўваецца зараз: у аснове яе будуць па-ранейшаму тры асноўныя пункты перадвыбарнай праграмы– цэнаўтварэнне, барацьба з карупцыяй і мафіяй, аднаўленне сувязей з дзяржавамі былога Саюза і заходнімі краінамі. Не выключана, што і сама канцэпцыя будзе вынесена на рэферэндум, як і пытанне аб перадачы зямлі сельскагаспадарчага прызначэння.

Ход рэформ у Расіі нашым прэзідэнтам быў ахарактарызаваны як абвальны і непрымальны для Беларусі. Як альтэрнатыўны быў прапанаваны шлях "кропкавай прыватызацыі"– укладанне інвестыцый у галоўнае акцыяніраванае прадпрыемства з продажам часткі акцый замежнаму капіталу за вялікія грошы. Асвоіўшы такім чынам новыя тэхналогіі, гэтыя "лакаматывы" змогуць выцягнуць і астатнія, звязаныя з імі дагаворамі паставак, прадпрыемствы рэспублікі. Такі працэс, на думку прэзідэнта, кантралюе і дазваляе пазбегнуць негатыўных вынікаў у грамадстве.

У той жа час Вярхоўны Савет, які абараняў свае правы на парламенцкую "Народную газету", прызначыў на пасаду яе галоўнага рэдактара Л. Юнчыка, хаця раней быў апублікаваны указ А. Лукашэнкі аб прызначэнні М. Шыманскага. Кропку ў справе павінен паставіць Канстытуцыйны Суд. І гэтая кропка мае вялікую магчымасць пераўтварыцца ў апошнюю кроплю, якая перапоўніць чашу. Толькі вось чыйго цярпення?

*Аляксандр УЛАДЗІН.*

## Адным абзацам

❑ 27 чэрвеня Канстытуцыйны Суд сваім рашэннем адмяніў норму пастановы Савета Міністраў ад 31 жніўня 1993 года № 589 у частцы, дзе гаворыцца, што кватэры могуць быць прададзены толькі грамадзянам, якія пастаянна пражываюць у гэтым населеным пункце. Такім чынам, адсутнасць прапіскі ўжо не з'яўляецца перашкодай у набыцці жылля. Доўгачаканая асабістая кватэра ў Мінску для нежыхароў сталіцы перастае быць марай.

❑ 27 ліпеня– Дзень незалежнасці. Створаны аргкамітэт па яго святкаванню, і ў Мінгарвыканком пададзена заяўка на правядзенне ў сталіцы шэсця ад плошчы Незалежнасці да помніка Янку Купалу, дзе пройдуць мітынг і канцэрт.

❑ Намеснік міністра фінансаў А. Сверж паабяцаў, што будзе выдзелены крэдыт у памеры 150 мільярдаў руб. Гэтыя грошы плануецца накіраваць на зніжэнне запазычанасці па заработнай плаце работнікам бюджэтнай сферы, але іх яўна недастаткова, бо толькі агульная запазычанасць па зарплаце настаўнікам складае 139 мільярдаў рублёў. Па Мінскай вобласці– 30,1 (за чэрвень– каля 10), па Гродзенскай– 13,2 (за чэрвень– 4,13).

❑ Заўтра адбудзецца адкрыццё XXVI Алімпійскіх гульняў у Атланце, дзе Беларусь будуць прадстаўляць 160 лепшых спартсменаў краіны. Пажадаем нашым атлетам поспехаў і медалёў.

❑ Дзяржаўная Дума Расіі ратыфікавала пагадненне па забеспячэнні ўзаемнай канвертацыі і стабілізацыі расійскага і беларускага рублёў, у сувязі з чым з'яўляецца магчымасць рэгуляваць курсы рублёў і праводзіць узаемаразлікі ў любой валюце: і ў расійскай, і ў беларускай.

## "Дарогі смерці"– адгукніцеся, сведкі

*"Рэгіянальная газета" працягвае публікацыю дакументаў аб перыядзе рэпрэсій 1939-1941 года на тэрыторыі нашага рэгіёна. Рэакцыя чытачоў паказала вялікі інтарэс да гісторыі турмы ў Вілейцы (і не толькі) падчас згаданага перыяду. "РГ" будзе ўдзячна любому сведчанню аб тым, што адбывалася ў турэмных сценах ад часу яе заснавання. Спадзяёмся на вашы званкі, допісы. Наш тэлефон у Маладзечне (01773) 53841.*

*У рэдакцыю звярнуўся таксама начальнік Мядзельскага міжраённага аддзела КДБ Іван Шышкавец, які займаецца гісторыяй вязніцы ў Вілейцы. Спадзеючыся на супрацоўніцтва ў справе высвятлення ўсіх акалічнасцей фактаў знішчэння людзей у Вілейцы ў пачатку другой сусветнай вайны і пасля – да 1944 года ўключна, Іван Іванавіч абяцаў азнаёміць рэдакцыю з невядомымі нам раней матэрыяламі.*

*Магчыма, Вілейка ніколі не раскрые ўсіх старонак свайго мінулага. Але нявінныя ахвяры якога б то ні было палітычнага рэжыму заслужылі хаця б таго, каб мы даведаліся аб іхніх пакутах і лёсе. Сёння на 2-й старонцы працяг рубрыкі "Сведчаць дакументы".*

## Навіны

### Паўтара мільярда за два тыдні

*МАЛАДЗЕЧАНСКІ Р-Н. Летась калгас "Гарадзілава" атрымаў за раннюю бульбу звыш мільярда "зайчыкаў".*

Паводле слоў начальніка першага вытворчага ўчастка Яраслава Странкоўскага, надвор'е спрыяе, і штодзень бульба прыбывае на два-тры цэнтнеры на кожным гектары. Плошча бульбянішча ранняспелых сартоў кожны год павялічваецца і, адпаведна, узрастае прыбытак калгаснай касы. Сёння за два тыдні ён павінен скласці такую ж суму, як прыбытак ад каўбаснага цэха за цэлы год. Шкада толькі, што бульба– тавар сезонны.

А пакуль на калгасных палетках шчыруюць каля ста чалавек, выкопваючы ў сярэднім да двух гектараў бульбы за дзень. Клубні ахвотна закупляюць камерцыйныя структуры і штодня ў калгасную скарбонку паступае да 100 і больш мільёнаў рублёў.

*Алесь ЛІПСКІ.*

### Няма банка– няма клопату

*АСТРАВЕЦ. У канцы мінулага года з'явіліся чуткі аб закрыцці аддзялення "Белбізнесбанка". Адбылося значнае скарачэнне штатаў, але банк працягваў працаваць у звычайным рытме.*

Днямі ж прыйшла непрыемная вестка аб ліквідацыі аддзялення. Завершана перадача дакументаў ва ўпраўленне "Белбізнесбанка" па Гродзенскай вобласці, праведзены разлікі з укладчыкамі.

З 12 ліпеня дзверы ўстановы зачыніліся. Цяпер у будынку размесціцца бібліятэка. Работнікі банка па сваёй спецыяльнасці занятак ні ў "Беларусбанку", ні ў "Белаграпрамбанку" не знайшлі з тае прычыны, што там і сваіх хапае.

Такім чынам, былым "белбізнесбанкаўцам" толькі і застаецца, што запісацца ў рады беспрацоўных і чакаць, спадзеючыся на лепшыя часы і фартуну.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

### Колькі вяровачцы ні віцца

*ВІЛЕЙКА. З комплекснага прыёмнага пункта ў вёсцы Сываратк і Смаргонскага раёна невядомыя зламыснікі ўкралі падрыхтаванае да продажу жаночае адзенне, у другім населеным пункце Смаргоншчыны– бульбакапалку. Міліцыя, узбудзіўшы па фактах абодвух крадзяжоў крымінальныя справы, злачынцаў знайсці не магла. І не думалі-не гадалі смаргонскія пінкертоны, што аўтары гэтых крымінальных учынкаў жывуць на Вілейшчыне.*

Трынаццаць маладых мужчын і жанчын нідзе не працавалі, а жыць хацелі прыпяваючы. Для гэтага выбралі сабе занятак распаўсюджаны, хоць законам і асуджаемы– крадзяжы.

Пачыналі з вясковай тэлемайстэрні. У 1992 годзе крадзеж гэты так і застаўся нераскрытым. Далей– болей. Не грэбавалі нічым– ні калгаснай маёмасцю, ні асабістай. У аднаго з вяскоўцаў "свіснулі" харчы, гарэлку, не пагрэбавалі нават туалетнай паперай. Так ці інакш, але геаграфія крадзяжоў "круцілася" вакол Іжы, Любані, Нарочы, Золькаў. І гэта адзінае, што ведалі сышчыкі.

А "вылічылі" злодзеяў, бадай, выпадкова. У аднаго з іх знайшлі бутэлькі рэдкай формы. Якраз такія зніклі ў снежні мінулага года са склада ў Зольках. Паступова разблыталі ўвесь клубок.

За чатыры гады беспакараных крадзяжоў група непрацуючых іжанцаў з трынаццаці чалавек у вёсцы і недалёкіх ад яе населеных пунктах зрабіла больш дваццаці (па дадзеных папярэдняга следства) крадзяжоў. Усе іх аўтары нідзе не працавалі, а жыць хацелі бязбедна. І да пары да часу гэта ім удавалася. Але нездарма кажуць: колькі вяровачцы ні віцца...

*Аддзел інфармацыі.*

### Цукеркі з соллю

*ІВЯНЕЦ. З традыцыйнай цукеркі "Кароўка" інжынер-тэхнолаг ААТ "Івкон" Яўгенія Грыбкоўская зрабіла "Кароўку арыгінальную", выкарыстаўшы .. кухонную соль.*

Яўгенію Іванаўну смела можна назваць маці ўсіх івянецкіх цукерак.

Яна вывучае замежную і айчынную інфармацыю, "прымервае" яе на вырабы айчыннай вытворчасці, прыкідвае, што можна прымяніць на практыцы, экперыментуе.

Напэўна, яе творчая лабаратоыя прапахла водарам розных зёлак, спецыяў, прысмакаў, а стварэнне новых відаў цукерак нагадвае працэсы ў лабараторыі фокусніка. Ацэнку вынаходніку ставяць пакупнікі; толькі спажывецкі попыт можа дакладна адказаць на пытанне: ці адпавядае назва смаку ласунка.

Спецыяліст мяркуе, што "Кароўка арыгінальная" будзе нават лепшая за цяперашнія цукеркі. Цэнтральнай дэгустацыйнай камісіяй зацверджаны і малочныя непаліваныя цукеркі "Салодка" з выкарыстаннем экстракту лакрычнага кораня, які спрыяе вывядзенню радыенуклідаў з арганізма.

Да зацвярджэння рыхтуюцца відазмененыя ўсходнія ласункі "Казінакі", дзе да арэхаў дадаецца мак, вырашана таксама аднавіць выпуск некалі вельмі папулярнай карамелі "Грыльяжная".

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

Сведчаць дакументы

# 1939-1941

## Хроніка злачынстваў

*Працяг. Пачатак у №28.*

*Ужо ў дзень выбуху савецка-нямецкай вайны, г.зн. 22* чэрвеня 1941 года, па загадзе кіраўніцтва турмы былі выкапаны дзве вялікія ямы. Адна пры жаночым корпусе, другая ў садзе пры мужчынскім корпусе. Ямы гэтыя прызначаліся для вязняў, якіх не было намеру эвакуіраваць, а вырашана ліквідаваць на месцы.

Напярэдадні эвакуацыі, 23 чэрвеня, адбыўся суд над 14 палякамі з Ашмянаў (у тым ліку над дзвюма жанчынамі), абвінавачанымі ў прыналежнасці да паўстанцкага штабу або супрацоўніцтве з ім. Адзін з абвінавачаных, студэнт Яўген Касцюкевіч, сын урача з Ашмянаў, па вяртанні з суда ўмоўным знакам праінфармаваў таварышаў, што 12 з іх прыгаворана на смерць. Прыгавор быў выкананы на наступны дзень.

24 чэрвеня паміж 15.00 і 16.00 турэмныя ахоўнікі, а таксама некаторыя прадстаўнікі следчых органаў пабывалі ва ўсіх камерах і са спісу, дадзенага ўрачом, прачыталі прозвішчы хворых і няздольных да маршу. Апроч тых, былі названыя прыгавораныя на смерць і тыя, каго чакалі прыгаворы за цяжкія злачынствы. Яны павінны былі застацца ў камерах, а астатнім загадалі адразу ж падрыхтавацца ў дарогу— з рэчамі без матрасаў і цяжкіх прадметаў.

У хуткім часе пачалі выводзіць у двор тых, хто павінен быў быць эвакуіраваны, ставячы асобна прыгавораных толькі па арт. 120, а асобна па іншых артыкулах. З сабранай масы выклікалі яшчэ звыш 20 вязняў і адправілі назад у камеры. Астатніх расфарміравалі на дзве вялікія групы па 750-850 чалавек кожная. Пасля таго, як іх вывелі за турэмныя вароты, перш чым рушыць у дарогу, прымусілі чакаць усіх на каленях— па чацвёрках. Апошнімі былі пастаўленыя жанчыны ў колькасці 400-450.

Калі канвой, узброены рэвальверамі, вінтоўкамі і кулямётамі, быў гатовы рушыць у дарогу, начальнік турмы коратка праінфармаваў, як належыць трымаць сябе падчас маршу, пагражаючы абавязковым, без папярэджання, ужываннем зброі за кожны крок з шарэнгі: «Шаг вправо, шаг влево— пуля в лоб». Нарэшце прагучаў загад устаць і пад вельмі моцнай аховай рушылі на ўсход.

У хвіліну адыходу вязняў ахова з турмы была знята і далучана да суправаджэння, якое складвалася з турэмнай службы, работнікаў НКВД, следчых работнікаў. Да іх таксама далучылі міліцыянераў з усёй Віленшчыны, якія змаглі да 24 чэрвеня уцячы ад немцаў у Вілейку. Астатняя невялікая група работнікаў НКВД мелася забіць пакінутых вязняў, што пацвярджаецца пазней атрыманымі звесткамі.

Перад абедам пры дарозе прызямліўся савецкі самалёт, а праз пару хвілін з'явіліся тры нямецкія бамбардзіроўшчыкі. Вязням было загадана легчы на дарозе, хаця канваіры рассыпаліся па абодвух баках шляху, хаваючыся ў равах і прыдарожных кустах, адкуль скіравалі на дарогу рулі сваёй зброі. Іншая група міліцыянтаў і энкавэдзістаў пачала страляць па нямецкіх самалётах, якія ляцелі на вышыні звыш 1000 метраў. Гэта бязладная і бязмэтная стралянiна прыцягнула ўвагу нямецкіх лётчыкаў. Яны знізіліся і закідалі канвой малымі бомбамі, расстралялі ахову з кулямётаў. Па шчасцю ніхто з вязняў не пацярпеў, але былі забітыя двое канваіраў з НКВД.

Ад тае хвіліны пачалося сапраўднае пекла і знішчэнне вязняў. Коні, спуджаныя выбухамі, разбегліся як шалёныя, з перакуленымі калёсамі. Таму энкавэдзісты ліквідавалі падводы, загадваючы ўсім вязням перабегчы поле ў кірунку недалёкага, метрах у 150-200 ад дарогі, лесу. Рэчы загадана было выкінуць. Усіх аслаблых і іншых, хто перад тым ехаў на калёсах , дабівалі з рэвальвераў і штыхамі. Некалькі дзесяткаў вязняў трапілі на дрыгву, угразлі і не маглі даць сабе рады. Не дапамаглі ім, але расстралялі ўсіх.

Ля лесу загадалі вязням бегчы ў кірунку Плешчаніц, да якіх заставалася 20 кіламетраў. На працягу першай гадзіны такога марш-бегу чуваць было ў канцы калоны безупынную стралянiну: то знішчалі ўсіх слабых, але ўсё адно калона, нягледзячы на раз'юшанасць энкавэдзістаў, расцягвалася ўсё больш.

"Дапамагаючы свайму таварышу Юзэфу Качаніну, які вельмі аслаб,— сведчыць адзін з эвакуіраваных,— быў у апошніх шарэнгах тае групы і бачыў страшэнныя рэчы. За калонай ішлі некалькі энкавэдзістаў з рэвальверамі ў руках і расстрэльвалі кожнага, хто падаў ад слабасці. Было такіх шмат. Бачыў гэта таксама мой таварыш Качанін (у іншых дакументах Канчанін— **рэд.**) і са слязьмі ў вачах маліў мяне, каб яго ратаваў. Нёс яго паўтара кіламетра— урэшце апынуўся ў апошніх радах групы, калі да мяне падбеглі пару канваіраў крычучы: кідай, а сам бяжы наперад!

*Працяг будзе.*

## Хлеб і птушкі

*ІВЯНЕЦ. Нязвыклую для сябе прадукцыю пачаў выпускаць племптушказавод.*

Дзякуючы намаганням дырэктара прадпрыемства Васіля Кожава, у Расіі набылі абсталяванне для цэха па выпуску хлебабулачнай прадукцыі. Спецыялістаў шукаць не давялося, бо пасля закрыцця мясцовага хлебазавода многія засталіся без работы.

У бліжэйшы час тут мяркуюць працаваць у тры змены, а прадукцыю прадаваць у сваіх фірменных магазінах у Івянцы і Валожыне. Заключана дамова на пастаўку якаснай прадукцыі ў мясцовы дом-інтэрнат.

*Тадэвуш БАРАВІКОЎСКІ.*

## У лясах грыбнікі. З граблямі

*АСТРАВЕЦ. Аб надыходзе грыбной пары сведчаць не толькі перапоўненыя кошыкі грыбнікоў, але і паведамленні пагранкамендатуры.*

У літоўскіх лясах няма лісічак, што падштурхнула днямі Вацлаваса Даміікаса і Алену Марчулёніс з Вільнюса на прыгоды. Зранку, загрузіўшыся ў "Запарожац", вырашылі "крутануцца" да нас у госці. Але цывілізаваным метадам не выйшла з-за адсутнасці патрэбных дакументаў.

Калі мяжа апынулася за плячыма, "салодкая парачка" занялася пошукамі лісічак. Каб не марудзіць, збіралі грыбы з дапамогай... грабляў. На жаль, у лесе з'явіліся пагранічнікі.

–Ці не сена сушаць людцы?– падумалі апошнія.

Але яго там днём з агнём не знайсці, а таму выснова была адна: гэта не толькі парушальнікі мяжы, але і шкоднікі прыроды.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Новае пакаленне выбірае Маладзечна

***МАЛАДЗЕЧНА. Вытокі майстэрства дрэваапрацоўкі не загінулі, аб чым красамоўна сведчыць стварэнне ў музвучылішчы трохгадовага аддзялення дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.***

Набор студэнтаў прайшоў другі раз. Здольныя юнакі і дзяўчаты са Смаргоні, Вілейкі, Беразінскага сталі яго першакурснікамі. Творча працуе педагагічны калектыў аддзялення, у якім выхоўваюць моладзь члены Саюза мастакоў і Саюза дызайнераў. Наладжаны сувязі з калегамі ў Вільнюсе. Яны дапамагаюць асвойваць новыя тэхналогіі дрэваапрацоўкі, а таксама прапануюць цікавыя творчыя ідэі для іх рэалізацыі ў вучэбных майстэрнях. Работы маладзечанскіх студэнтаў сталі памятнымі падарункамі Беларускаму пасольству ў Італіі, Фларэнцыйскай кансерваторыі, у якасці сувеніраў трапілі ў Германію.

Кіраўніцтва аддзялення рыхтуе экспазіцыю творчых работ студэнтаў для музея дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і салона-магазіна "Паланез".

*Наталля РАБЧАНКА.*

## Стралялі

*АШМЯНЫ. Здаецца, і ў нашай краіне стралянiна пакрысе становіцца звычайнай з'явай.*

Мясцовы рэстаран паблытаў з цірам раней судзімы беспрацоўны дзяцюк. Ён параніў жанчыну (тая ў бальніцы), а сам з пісталетам збег.

Прыгоды меліся працягвацца каля рынку, але неўзабаве злачынцу злавілі.

*Аддзел інфармацыі.*

Сенсацыя

# Горад сонца будзе

*МАЛАДЗЕЧНА. У звычайнай кватэры цуд прымае рэальныя формы, і адсюль адчыняецца акно з нашага неўпарадкаванага жыцця ў светлы заўтрашні дзень. Гэта не перабольшванне, а рэальнасць. Хаця і неверагодная, і парадаксальная.*

Менавіта ў Маладзечне сёння працуе група з 10 чалавек над практычным выкарыстоўваннем прыроднай энергіі, пра якую бацька савецкай радыялакацыі Павел Ашчэпкаў казаў: "Энергія рассеяна вакол нас. Мы жывем у энергетычным акіяне."

Пад кіраўніцтвам Ашчэпкава ў Маскве прэзідэнт маладзечанскага навукова-даследчага цэнтра "Нетрадыцыйная энергетыка" Віктар Лац абгрунтаваў агульны закон энергетычнай інверсіі. Група фізікаў, якая займалася даследаваннямі ў галіне нетрадыцыйнай энергетыкі, у 1988 г. эксперыментальна пацвердзіла наяўнасць энергаінверсіі.

На жаль, у ліку іншых усесаюзных установаў распаўся УНДІ "ЭНІН". Спынены даследаванні ў галіне нетрадыцыйнай энергетыкі. Віктар Лац і яшчэ два даследчыкі з групы вярнуліся ў Беларусь. Тут прадоўжылі навуковы пошук разам з маладымі таленавітымі мясцовымі вынаходцамі.

Апошнія гады цэнтр працуе, можна казаць, на энтузіязме, без знешняй фінансавай падтрымкі. Выкарыстоўваючы тэорыю РУД і абгрунтаваны на яго падставе закон энергаінверсіі ў неардынарных канструктарскіх знаходках Віктара Лаца, супрацоўнікі цэнтра стварылі і займелі прыярытэт на ЭКГ– энергетычны контурны генератар. Ён пераўтварае гравітацыйную энергію і прыстасоўвае яе дзеля бытавых і вытворчых патрэб. Аналагаў гэтаму метаду атрымання энергіі няма ў свеце. Ён мае бесканкурэнтную перспектыву, дзякуючы нескладанасці, экалагічнай чысціні вытворчасці і выкарыстоўвання. Каэфіцыент карыснага дзеяння ЭКГ 0,8-0,9. Тэрмін акупнасці– 6 месяцаў. ЭКГ не мае патрэбнасці ў паліўна-энергетычных рэсурсах, нафце, газе, торфе і г. д., не абмежаваны па магутнасці і колькасці энергіі, якая рэгенеруецца.

Фантастычна? Толькі скептыкам, недаверлівасць якіх заснавана на несвядомасці. Адкрыццё Віктара Лаца і яго калег з цэнтра вядомае прызнаным аўтарытэтам беларускай навукі. Ужо тры гады ідзе звычайная бюракратычная цяганіна з укараннем ЭКГ у вытворчасць.

Закон энергаінверсіі не толькі не супярэчыць усеагульна вядомым, наадварот, як звяно, якога не хапала, тлумачыць шэраг парадаксальных з'яў. У розных галінах навукі пашыраецца поле дзеля пошуку новых адкрыццяў. У тым ліку медыцыны, каб павярнуць працэс развіцця хваробы назад. Акрэслівае шлях барацьбы з вынікамі чарнобыльскай трагедыі. У Віктара Лаца ёсць сур'ёзная падстава сцвярджаць гэта.

Адзін з вучоных пасля даклада Лаца на канферэнцыі ў Беларускай політэхнічнай акадэміі сказаў: "Гэтаму чалавеку трэба пры жыцці ставіць помнік ужо толькі за ініцыятыву і энтузіязм, не кажучы пра астатняе". І меў рацыю. Усё жыццё вынаходцы прызначана адзінай справе. Ён шкадаваў марнаваць час на атрыманне вучоных ступеняў. Таму і зрабіў шмат. Сёння ў цэнтры спраектаваны больш за 30 мадыфікацый ЭКГ, прынцыпова розных. Укараненне нават часткі– пераварот у вытворчасці.

Уявіце сабе заўтрашні дзень. Мы больш не ведаем энергетычнага крызісу. Кожны прыватны катэдж мае цяпло і святло ад асабістага ЭКГ, які можа кіравацца дыстанцыйна і аўтаномна. Дарэчы, гэта прасцейшая мадыфікацыя, макет якой існуе. Рухавік вашага ўласнага аўтамабіля не забруджвае паветра. Гаспадыня на кухні гатуе ежу і пры гэтым дыхае чыстым паветрам замест выкідаў газавай гарэлкі. Дармавая энергія ўзняла вытворчасць і зрабіла нашу прадукцыю таннай. Суадносна ўзрос дабрабыт кожнага (!) чалавека. Экалагічна чыстыя танныя ЭКГ (кошт адной атамнай станцыі роўны 70 ЭКГ аналагічных магутнасцяў) маюць вялікі попыт і не маюць канкурэнцыі ў свеце.

Цуд? Першае , што адкажаце вы: "Такога быць не можа, таму што не можа быць ніколі". І гэта будзе першая праблема ў шэрагу шматлікіх іншых– псіхалагічны бар'ер. Людзям, якія даведзеныя да жабрацкага стану на сваёй Бацькаўшчыне, цяжка паверыць у магутнасць і інтэлектуальны патэнцыял нацыі. І тым не менш, апошняе– адзінае выйсце з эканамічнага, палітычнага і маральнага заняпаду.

Пакінем па-за рамкамі гэтай публікацыі замежную цікавасць да працы вынаходцаў, каб не шакіраваць і без таго няўпэўненага чытача. Віктар Лац лічыць, што менавіта маладзечанцы і жыхары Беларусі павінны займець карысць ад яго адкрыцця.

Наша ўсведамленне, трансфармаванае таварнаграшовымі адносінамі, не знаходзіць адказу на пытанне: "Калі ён такі разумны, чаму такі бедны? Чаму не наладзіць прыватную вытворчасць?"

Віктар Лац сталы чалавек савецкай закваскі, а каб укараніць знаходку ў вытворчасць, неабходны адпаведная матэрыяльна-тэхнічная база, спецыялізаваны канструктарскі калектыў. Ідэальным варыянтам для гэтага, на думку супрацоўнікаў НДЦ "Нетрадыцыйная энергетыка", з'яўлялася былое СКТБ на ВА "Электрамодуль" у Маладзечне. Нават сёння гэтай вытворчай базы, спецыялістаў і 10 тысяч долараў дастаткова, каб за паўгода зрабіць доследны прамысловы экземпляр і за наступныя паўгода ўкараніць у вытворчасць. Дарэчы, былы дырэктар аб'яднання Віктар Васько сёння працуе ў цэнтры, з'яўляецца сааўтарам некалькіх канструктарскіх распрацовак. Перасоўкі ў кіраўніцтве тры гады таму ўскладнілі праблему з укараненнем ЭКГ на ВА "Электрамодуль".

Прапанова адміністрацыі маладзечанскіх ЗЛМК, ЗПМ, ЖБВ, станказавода наладзіць вытворчасць доследнага экземпляра на іх базе не зусім задавальняе вынаходцаў па тэхналагічных прычынах. Аднак Віктар Лац не адмаўляе як варыянт, што на прынцыпе кааперацыі магчыма вытворчасць асобных камплектовак на розных прадпрыемствах Маладзечна і Мінска. Такая прапанова разгледжана ўсебакова.

Замоўчу пра іншыя цяжкасці, з якімі сутыкнуліся вынаходцы ЭКГ і пра якія казаць нетактоўна. Дадам, што патэнцыяльнымі праціўнікамі дармавой энергіі сёння з'яўляюцца сусветныя буйныя фірмы, паліўна-энергетычны комплекс, дзяржавы-манапалісты на энергасыравіну. І стане зразумела, што нават самая геніяльная ідэя можа доўга блукаць па пакутах у хаосе нашага сучаснага жыцця. Адзінае суцяшае: менавіта ў Беларусі вытворчае ўкараненне ЭКГ найбольш верагодна (згодна з мудрагелістай супярэчнасцю: чым горш– тым лепш).

Якая падтрымка сёння неабходная вынаходцам з НДЦ "Нетрадыцыйная энергетыка"? У першую чаргу– грамадская. Тых людзей, якія жадаюць мець работу па свайму прызначэнню, дабрабыт у сям'і. Яны разлічваюць на фінансавыя сродкі беларускіх прадпрымальнікаў, дзейнасць якіх можа раптоўна павярнуцца з гандлёвага накірунку ў вытворчы, стаць цікавай і прыбытковай.

Пакет дакументаў па вытворчасці ЭКГ у чарговы раз пададзены ў адміністрацыю прэзідэнта краіны. Супрацоўнікі НДЦ плануюць правядзенне міжнароднага аўкцыёну, на якім прыярытэт будзе аддавацца суайчыннікам.

Вочы геніяльнага вынаходцы Віктара Лаца іскрацца і вылучаюць цеплыню: "Той чалавек, які першым абвясціў Маладзечна горадам сонца, напэўна, не ведаў, што гэтак і ёсць. Менавіта адсюль, з Маладзечна, свету адчыніцца шлях да таннай чыстай энергіі гравітацыйнага поля Зямлі".

Хто ведае, можа, сённяшні дзень– выпрабаванне? Бар'ер, які пакуль прытрымлівае нас у смуродным паветры. Крок– і вось яно: экалагічна чыстае, з пахам азону, прыхарошвае не толькі цела, але і душу.

*Святлана САРОКА.*

